© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Беларус

**Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!**
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

**№ 370 Травень 1990**
Год выд. XXXIX

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00

## НАРАДА НАРОДНЫХ ФРАНТОЎ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ, УКРАІНЫ

Дваццаць шостага красавіка ў Менску адбылася сустрэча прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту, літоўскага «Саюдзісу» і ўкраінскага «Руху». У ёй узялі ўдзел і дэпутаты вярхоўных саветаў Беларусі, Літвы і Украіны. На парадак дня было пастаўленае актуальнае пытаньне палітыка-эканамічнага саюзу паміж трыма рэспублікамі.

Як падкрэслівалі амаль усе прамоўцы, сапраўднай незалежнасьці можна дамагчыся толькі сумеснымі намаганьнямі. Спадзявацца, што Літва і надалей будзе выцягваць для нас «каштаны з полымя», неразумна. Дзеля абароны сваіх інтарэсаў Беларусі, Украіне, Малдавіі, Прыбалтыцы трэба тэрмінова стварыць уласны рынак. Толькі такім чынам можна будзе супрацьстаяць уціску з боку Масквы.

На нарадзе шмат увагі было нададзена сытуацыі ў рэспубліках, зьвязаным з адзьдзяленьнем Літвы пераменам у грамадзкай сьвядомасьці. Абвешчаньне незалежнасьці Літвы падштурхнула дэмакратычныя працэсы на Украіне, асабліва ў заходняй яе частцы. «Літоўскі прэцэдэнт» стымуляваў незалежніцкія настроі Украінцаў. Дэпутацыя ўкраінскага «Руху» засьветчыла, што цьвярджаньні маскоўскага друку пра супярэчнасьці паміж заходнім і ўсходнім рэгіёнамі рэспублікі высмактаныя з пальца. Розьніца існуе толькі ўва ўзроўні палітычнай культуры і актыўнасьці нацыянальна сьведамых людзей.

Надзвычайна складанае становішча цяпер у Літве ў выніку энэргетычнай і транспартнай блякады. Напружанасьць нагнятаюць таксама акупацыйныя войскі і прадстаўнікі прамаскоўскай кампартыі, якія намагаюцца справакаваць народ на масавыя беспарадкі.

Што да палажэньня ў Беларусі, дык на сустрэчы было падкрэсьлена, што партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва рэспублікі надзвычайна рэакцыйнае і кансэрватыўнае. Антынародная сутнасьць КПБ асабліва праявілася ў справе ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі. Два мільёны Беларусаў дагэтуль жывуць на забруджаных землях і ўжываюць радыяцыйна небясьпечныя прадукты.

Чарнобыльская тэма была разгледжана ў кантэксьце эканамічнай блякады Літвы. Мяркуючы па тым, наколькі цесна зьвязаныя паміж сабой прадпрыемствы Беларусі й Літвы, блякада апошняй адначасова стане блякадай Беларускай рэспублікі.

Удзельнікі сустрэчы вырашылі зьвярнуцца да працоўных калектываў БССР з заклікам працягваць пастаўкі ў Літву. Літоўскія прадстаўнікі прапанавалі варыянты ўзаемавыгоднага абмену, у прыватнасьці, абмену іхніх будаўляных матар'ялаў на беларускія энэргетычныя прадукты. Паколькі перад Беларусьсю і Украінай стаіць пытаньне масавага адсяленьня ахвяраў Чарнобыля, такі варыянт выглядае вельмі выгодным, бо будаўляных матар'ялаў катастрафічна не хапае. Такім чынам, відавочна, што ёсьць рэальныя пэрспэктывы стварэньня новага эканамічнага рынку. Гэткі крок ня толькі выратуе Літву, але й прымусіць Маскву лічыцца з новым эканоміка-палітычным блёкам, які ўяўляецца цяпер як садружнасьць народаў заходняй ускраіны Расійскай імпэрыі — ад Балтыцкага да Чорнага мора, гэта значыць — Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны й Малдавіі.

Першы крок зроблены, але наперадзе — вялікая арганізацыйная работа. Нарада выпрацавала сумесны дакумэнт, тэкст якога падаецца ніжэй.

### Пратакол рабочай сустрэчы прадстаўнікоў рухаў Украіны, Беларусі і Літвы.

Дваццаць шостага красавіка 1990 году ў Менску адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў Народных рухаў Украіны — «Рух», Беларусі — БНФ і Літвы — «Саюдзіс». У сустрэчы ўзялі ўдзел дэпутаты Вярхоўных Саветаў УССР, БССР і Літоўскай рэспублікі. Абмяркоўваліся пытаньні палітычнага становішча на Украіне, на Беларусі і ў Літве, пытаньні, зьвязаныя з эканамічнай блякадай Літвы і будучай сустрэчы ў Кіеве прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў.

Асноўная ўвага надавалася праблемам, зьвязаным з чарнобыльскай катастрофай і яе вынікамі. Удзельнікі сустрэчы дамовіліся аб'яднаць намаганьні ў вырашэньні экалягічных, эканамічных і гуманітарных пытаньняў, народжаных Чарнобылем. Было падкрэслена, што эканамічная блякада, якая праводзіцца па рашэньню Прэзыдэнцкага Савету і ўраду СССР, ускладняе эканамічную сытуацыю ў суседніх рэспубліках, што непазьбежна адаб'ецца на эфэктыўнасьці выкананьня дзяржаўных праграмаў па пераадоленьні наступстваў чарнобыльскай трагедыі.

Была дасягнута дамоўленасьць, што для абароны жыцьцёвых інтарэсаў пацярпелых ад аварыі грамадзянаў Украіны й Беларусі неабходна выпрацаваць канкрэтныя сумесныя меры. Прызначана рэгулярна праводзіць падобныя рабочыя сустрэчы.

За Народны рух Украіны за перабудову «Рух» — Сяргей Галаваты.

За літоўскі рух «Саюдзіс» — Віргіліюс Чапайціс.

За Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» — Зянон Пазьняк.

Менск, 26 красавіка 1990 году.

*(Паводля матар'ялаў Беларускае рэдакцыі радыястанцыі «Свабода»)*

## 72-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР



*Подпіс пад гэтым здымкам, зробленым у Менску 25 сакавіка 1990 г. ў парку імя Янкі Купалы, можна было-б даць Купалавымі словамі з газэты «Беларусь» (№ 23/50, 15. XI. 1919): «Адбудаваньне незалежнасьці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь. Чэсьць і слава табе, беларуская моладзь!.. Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і сьвятлейшую будучыну. Набок з дарогі, панове і гаспада з Заходу і Ўсходу! Беларуская моладзь ідзе!»* (гл. Купалаў арт. у часапісе «Спадчына», Менск, № 1/90)

### ВІЛЬНЯ

Пасьля доўгага перапынку ўгодкі Незалежнасьці былі публічна адзначаныя сёлета і ў Вільні. Рэфэрат на тэму дня чытаў сп. Лявон Луцкевіч. Адсьпявалі «Ад веку мы спалі» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Адбыўся самадзейны канцэрт. Пасьля ўдзельнікі сьвяткаваньня прайшлі са сьцягамі на Лукішкі, і каля месца, дзе загінуў Кастусь Каліноўскі, адбыўся кароткі мітынг.

### ТАЛІН, ЭСТОНІЯ

Беларускім Культурным Таварыствам «Грунвальд» былі адзначаны 72-я ўгодкі Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР).

На ўрачысты сход, які адбыўся з дазволу эстонскіх уладаў, 25 сакавіка 1990 г. на выспе Хар'ю сабраліся прадстаўнікі таварыства «Грунвальд», госьці з Украінскага таварыства ды значная колькасьць сьвядомых Беларусаў з Таліна і яго навакольля.

Актывісты таварыства «Грунвальд» Лявон Валуй і Сяржук Сотчанка расказалі прысутным аб узьдыме беларускага адраджэнскага руху пасьля Кастрычніцкага перавароту ў Расеі ў 1917 годзе і аб умовах, у якіх адбылося абвешчаньне БНР.

Былі зачытаныя Другая Ўстаўная Грамата Рады Кангрэсу і Трэйцяя Ўстаўная Грамата Рады БНР, якая абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Усё наваколье было ўпрыгожана бел-чырвона-белымі сьцягамі, луналі жоўта-блакітны ўкраінскі і сіня-чорна-белы эстонскі нацыянальныя сьцягі.

Былі выстаўлены транспаранты ў падтрымку незалежнасьці Эстоніі, Беларусі і Літвы.

Тацьцяна Кучынская чытала беларускія вершы, разам сьпявалі беларускія песьні.

*(«Грунвальд», № 2, Талін, сакавік 1990)*

### РЫЧМОНД-ГІЛ, НЬЮ-ЁРК

Наладжанае Беларуска-Амэрыканскім Аб'еднаньнем, сьвяткаваньне адбылося ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага 1 красавіка. Айцец Грэгары пасьля сьв. Літургіі адслужыў малебен. Хорам кіраваў сп. Васіль Шчэцька. У казані а. Грэгары гаварыў пра веру, што перамагае страх. Вучні Хрыста, калі ўваходзілі за сваім Настаўнікам у Ерусалім у Вербную нядзелю перад Укрыжаваньнем, адчувалі вялікі страх, але вера іхняя была мацнейшая за пачуцьцё страху. Гэтак і сёньня ў аблічча турботаў гэтага сьвету, — сказаў а. Грэгары, — мы павінны мацаваць у сабе веру ў перамогу справядлівасьці.

Урачысты сход у падцаркоўнай залі пачаўся амэрыканскім гімнам. Сп. Кастусь Мерляк, старшыня БАА, адчыніў урачыстасьць. Др. Янка Запруднік у рэфэраце на тэму дня расказаў пра апошнія падзеі на Беларусі, якія паказваюць на ідэйную пераемнасьць паміж сучасным нацыянальным адраджэньнем ды ідэаламі незалежнасьці Беларусі, сфармуляванымі творцамі Акту 25 Сакавіка. Прамоўца падкрэсь-

*(Працяг на 2-й б.)*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 72-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

ліў важнасьць справы дапамогі ахвярам Чарнобыля.

Сп. Мерляк прачытаў праклямацыі Дня беларускае Незалежнасьці ў штатах Нью-Джэрзы, Канэктыкет і Пэнсыльванія ды ў горадзе Нью-Ёрку, а таксама прывітаньні ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча. Старшыні БЦР сп. Міхася Зуя ды беларускіх арганізацыяў. З прывітальнымі прамовамі выступілі сп.сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, і Міхась Сенька, сакратар Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам, пасьля чаго адбыўся супольны абед, удала падрыхтаваны сястрыцтвам парафіі.

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Сьвяткаваньне пачалося ўдзелам беларускай дэлегацыі ў шматнацыянальным мітынгу-пратэсьце супраць маскоўскай каляніяльнай палітыкі у нерасейскіх рэспубліках СССР. Мітынг адбыўся на галоўным пляцы сталіцы Заходняй Аўстраліі гор. Пэрту «Форэст Плейс». Трыбуна, зь якой выступалі прамоўцы была ўпрыгожаная радам нацыянальных сьцягоў, сярод якіх красаваўся і бел-чырвона-белы сьцяг, ды шматлікімі транспарантамі. Адзін зь іх быў прысьвечаны Беларусі.

Праграма мітынгу пачалася адыйграньнем нацыянальных гімнаў трох прыбалтыцкіх і беларускага народаў ды адсьпяваньнем украінскага гімна групай Украінцаў. Першым з прамоўцаў выступіў сп. И. Чэканаўскас, які трапна схарактыразаваў каляніяльную палітыку расейскіх цароў і іх сучасных паступнікаў. Аб надвойных стандартах палітыкі заходніх краінаў гаварыў старшыня арганізацыі «Правы чалавека» сп. Вагір. Перад заканчэньнем мітынгу была прынята рэзалюцыя з просьбай да прэм'ера Аўстраліі і прэзыдэнта ЗША памагчы паняволеным Масквой народам стаць незалежнымі. На мітынгу ўзначальвалі беларускую дэлегацыю радныя БНР.

Адзначэньне 72-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР працягвалася ў гасподзе сп. Алекса Мароза, дзе сабралася ладная колькасьць суродзічаў, сярод якіх пераважала моладзь. Вітаў прыбыўшых на сьвяткаваньне старшыня Б.А. у З.А. сп. М. Раецкі-малодшы. У сваім дакладзе па-ангельску, ськіраваным да моладзі, ён заклікаў яе да шанаваньня роднай мовы і культуры ды весьці далей працу сваіх бацькоў. Пабеларуску чытаў рэфэрат Р. М.

Была праведзена зборка ахвяраў на «Дар Сакавіка», а таксама сактарат управы Б.А. у З.А. сп. А. Мароз уручыў афіцыйнаму зьбіральніку ахвяраў на дапамогу пацярпеўшым суродзічам ад Чарнобыльскае радыяцыі сп. М. Раецкаму, ахвяру ад Б.А. у З.А., чэк на суму 500 даляраў. Сьвяткаваньне закончылася пачастункам, за падрыхтаваньне якога належыцца падзяка ўсім сяброўкам Беларускага Аб'яднаньня.

**Р.М.**

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ

Сьвяткавальная акадэмія адбылася ў залі Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Файрфілдзе. Адкрыў яе ўступным словам старшыня клюбу сп. М. Лужынскі. Была адыграная з магнітафону малітва «Магутны Божа». Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Я. Гавенчык. Сп. сп. Лужынскі й М. Зуй зачыталі прысланыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў. Старшыня акадэміі вітаў гасьцей: бацькоў Ігара Хлябіча і яшчэ аднаго Беларуса, што прыбылі з Польшчы, маладую пару з Баранавічаў, сп. Юрку й Салі Хахолкаў ды сп-тва Алеся й Гэды Здановічаў з Англіі. А. Здановіч выступіў з прывітальным словам, падзякаваў сыднэйскім Беларусам, упаасобку сп. Сьвеціку Каранеўскаму за дапамогу Міжнароднай Амністыі ў кампаніі за вызваленьне Міхася Кукабакі, выказаў падзяку за матар'яльнае падтрыманьне Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, дзе паслугамі Бібліятэкі карыстаюцца сёньня беларускія акадэмікі зь Менску ды іншыя навукоўцы й журналісты.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Адбыўся надзвычай добра падрыхтаваны абед. Сталы блаславіў а. Ігар. У часе абеду была праведзеная лятарэя, прыбытак зь якое прызначаны для ахвяраў Чарнобыля. Час прайшоў у добрым настроі, госьці разьяжджаліся з прыемнымі ўспамінамі, глыбака ўдзячныя суродзічам за іхную гасьціннасьць.

**А. З.**

## ЛЁНДАН, АНГЕЛЬШЧЫНА

25 сакавіка лёнданскія Беларусы й госьці сабраліся ў залі бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Сакратар управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі сп. Я. Сяўковіч адчыніў урачыстасьць прывітаньнем прысутных, у тым ліку й гасьцей: Гэнрыка Сянькевіча з жонкай з Чыкага і пісьменьніка Кастуся Акулу з Таронта. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні з Аўстраліі, Нямеччыны ды Ватыканскага радыё.

Сп. Акула перадаў прывітаньні ад Згуртаваньня Беларусаў Канады і ў кароткай прамове зазначыў, што ідэі й дзяржаўная праграма, выказаныя ў трох Устаўных Граматах БНР, цяпер у больш распрацаваным выглядзе й дапасаваныя да новых абставінаў, сфармуляваныя ў праграме Беларускага Народнага Фронту. І сымбалі беларускае дзяржаўнасьці — гэрб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг — нясе сёньня па вуліцах беларускіх гарадоў новае пакаленьне змагароў, сыноў і дочак цяжка параненай Чарнобылем Бацькаўшчыны.

З даручэньня сакратара ЗБВБ сп. Акула прывітаў прысутных жанчын з Днём Маці.

Апостальскі Візытатар для Беларусаў-каталікоў а. Алесь Надсон, які каліся наведаў Беларусь, куды ён завёз ахвяраваныя Беларусамі Англіі ды іншых краінаў шпрыцы, лекі й вітаміны для ахвяраў Чарнобыля, даволі доўга й цікава расказваў пра сваё падарожжа, сустрэчы, катастрафальную сытуацыю на Беларусі.

На заклік удзельнікі сьвяткаваньня ахвяравалі 250 фунтаў на дапамогу ахвярам радыяцыі.

Урачыстасьць закончылася нацыянальным гімнам. Падчас супольнага пачастунку вяліся далейшыя гутаркі.

**К. А.**

## ЧЫКАГА

**Угодкі Незалежнасьці былі адсьвяткаваныя 25 сакавіка. У каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы а. Я. Сыру адслужыў урачыстую Літургію. У гэты** дзень бел-чырвона-белы сьцяг лунаў побач амэрыканскага перад гарадзкой управай Чыкага. Сьвяточная акадэмія адбылася ў Рыджэнсы Ін, дзе Мэліса Сенкевіч і Сэра Вайманк, у нацыянальных касьцюмах, сустракалі гасьцей, прышпільваючы ім бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Сьвяткавальную праграму, якая пачалася выкананьнем амэрыканскага гімну (Хозэ Галярза пад кампанімэнт на піяніна сп. Эдвіна Ўокэра), удала вёў др. Ролянд Талівэр. У прынагоднай малітве а. Сыру прасіў у Усемагутнага свабоды беларускаму народу й аховы ахвяраў Чарнобыля. Хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць палеглых змагароў за Бацькаўшчыну. Пад вядучых галасы Міхася Махнача й Галярзы адсьпявалі «Магутны Божа».

З прывітальным словам выступіў нававыбраны старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту (БКК) сп. Міхась Махнач. У часе абеду гучэлі з рэпрадуктара песьні ў выкананьні славутага барда Данчыка.

Праклямацыі губэрнатарам штату й мэрам Чыкага Дня беларускае Незалежнасьці прачыталі, адпаведна, Павал Сенкевіч і сп-ня Роўз Фарына, кіраўнічка культурных імпрэзаў пры гарадзкой управе.

Цікавы рэфэрат на тэму дня прачытаў паангельску Павал Гайдэль. З прывітальнымі прамовамі выступілі прадстаўнікі ад Украінцаў, ад Арганізацыі Народаў Усходняе й цэнтральнае Эўропы, Арганізацыі Паняволеных Народаў. Прамаўлялі Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч, Роўз Фарына, сп. Паркер ад імя кангрэсмэна Анунцыё, былы альдэрман Л. Фарына, які абяцаў зьвярнуцца да сэнатара Саймана ў справе дапамогі ахвярам Чарнобыля.

Зварот Беларусаў Амэрыкі да Беларусаў на Бацькаўшчыне прачытала сп-ня Вера Рамук ды таксама нагадала пра надасланыя прывітаньні ад беларускіх асяродкаў.

Дуэтам выканалі тры беларускія песьні Оля Брэжнёва й Оля Шукініха.

Сёлетняя ўзнагарода ад імя БКК была ўручаная сп-няй В. Рамук і сп. М. Махначом сп-ні Р. Фарына даўгагадовай прыяцельцы беларускае справы, а таксама сп. Антону Бяленісу за ягоную шматгадовую грамадзкую працу.

Вільям Волат прадэклямаваў беларускі рэлігійны верш, а а. Сыру выканаў некалькі беларускіх мэлёдыяў на піяніна.

Са зьмястоўным ды калярытным дакладам пабеларуску выступіла др. Раіса Жук-Грышкевіч з Канады. Дакладчыца наглядна праілюстравала вытокі сучаснага адраджэнскага руху ў Беларусі ды насьветліла жахлівы генацыд у Курапатах і чарнобыльскую ядзерную катастрофу.



*Сп-ня Вера Рамук і сп. Міхась Махнач ўручаюць узнагародную плякетку сп-ні Роўз Фарына (у цэнтры).*

Сп. Махнач зьвярнуўся з заклікам аб дапамозе ахвярам Чарнобыля, быў праведзены збор грошай.

Ізноў выступілі дуэтам сьпявачкі зь дзьвюма народнымі песьнямі, а «Люблю наш край» адсьпявалі ўсе разам.

Пастар Украінскай Баптысцкай Царквы сказаў малітву. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну й і песьні "God Bless America" закончылася акдэмія, якую Нікадэм Жызьнеўскі зафіксаваў на відэайстужку.

**Др. В. Р.**

## КЛІЎЛЕНД

Адзьдзел БАЗА адзначыў 72-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў нядзелю 25 сакавіка. Пасьля сьв. Літургіі ў царкве Жыровіцкае Божае Маці настаяцель Міхась Страпко з а. ераманахам Якубам адправілі малебен за Беларускі народ. Стаяла сьцяжная варта, у царкве была вялікая колькасьць людзей. Айцец Якуб сказаў прыгожую казань.

Супольны абед адбыўся ў запоўненай залі. Праграму адчыніў старшыня адзьдзелу БАЗА Янка Ханенка. Прагучэў амэрыканскі гімн. Сп. Ханенка, вітаючы прысутных, падкрэсьліў, што ўгодкі незалежнасьці адзначаюцца ня толькі на эміграцыі, але ўжо й на Бацькаўшчыне.

Галоўным беларускамоўным прамоўцам быў сп. Міхась Белямук, які цікава расказаў пра першае сьвяткаваньне сакавіковых угодкаў у Чыкага у 1949 годзе. Тады яшчэ былі пагрозы й перашкоды з боку Расейцаў, каб не дапусьціць да гэтага сьвяткаваньня, але

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



амэрыканскія ўлады дапамаглі і сьвяткаваньне прайшло добра. Затым ён гаварыў пра пэрыяд Мураўёва на Беларусі, калі праводзілася напорная русыфікацыя і нацыянальне жыцьцё было ў глыбокім заняпадзе, аднак ідэя свабоды перамагла, і ў 1918 годзе Беларусь была абвешчана вольнай і незалежнай краінай. Па другой вайне камуністы таксама хацелі зьнішчыць беларускі нацыянальны рух, аднак гэта ім не ўдалося, Беларусы змагаюцца за сваё нацыянальнае адраджэньне, сьвяткуюць Дзень Незалежнасьці 25-га сакавіка. Другім прамоўцам, у ангельскай мове, быў др. Вітаўт Кіпель зь Нью-Джэрзы. Ён таксама падкрэсьліў яшчэ ранейшыя сьвяткаваньні сакавіковых угодкаў у другіх асяродках Амэрыкі ды адзначыў уплыў ідэі незалежнасьці Беларусі на фармаваньне нацыянальнае сьведамасьці сучаснага маладога пакаленьня на Бацькаўшчыне.

З гасьцей першым выступіў сп. Аўгуст Пуст, прадстаўнік мэра гораду Кліўленду Уайта. Ён прачытаў праклямацыю ад гораду, якою дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём незалежнасьці Беларусі. Малады Алесь Кабяка прачытаў падобную праклямацыю ад губэрнатара штату Агаё Цэлеста ды прывітаньні ад сэнатара Мэцэнбаума і кангрэсмэнкі Мэры Роўз Оўкар. Сп. Ханенка прачытаў прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў: галоўнай управы БАЗА, адзьдзелаў БАЗА, арганізацыяў у Аўстраліі, Канадзе й іншых краінах.



*Жаночы хор «Васількі» (кіраўнік Кастусь Калоша, пасярэдзіне) у часе сьвяткаваньня 72-х угодкаў Незалежнасьці.*

У мастацкай частцы праграмы выступілі з дэклямацыямі Купалавых вершаў дзеці: Майк Гэй («За праўду»), Анджэля Альдрэтэ, («А хто там ідзе?») і Хрыстофэр МкДэрмат («Роднае слова»).

Оля Лукашэвіч і Люба Блізьнюк вельмі добра выканалі дуэтам ведамую песьню «Васілёчкі». Жаночы хор «Васілёчкі» пад акампанімэнт Олі МкДэрмат-Дубаневіч ўдала праспяваў тры народныя песьні: «Я ад вас далёка», «Роднае слова»і «Люблю наш край». Праграма закончылася нацыянальным гімнам. Сёлетнія ўгодкі Незалежнасьці прайшлі ў больш пазытыўным настроі, дзякуючы Беларўсам на Бацькаўшчыне, якія наважана змагаюцца за сваю мову, гісторыю, культуру і сваю дзяржаўнасьць. **К. П.**

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**У Кліўленьдзе 1-3 верасьня 1990 г.**

11022 Webster Rd.
Strongsville, Ohio 44136
Tel.: (216) 238-3842

3517 W 25 St.
Cleveland, Ohio 44109
Tel.: (216) 781-7231
(John Chanenka)

Дзевятнаццатая Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі абяцае быць людной і цікавай. Адбываецца яна ў часе эпахіяльных зьменаў і ў сьвеце, і ў беларускім жыцьці. Прадбачыцца ўдзел у Сустрэчы выдатных мастацкіх талентаў і заслужаных людзей, у тым ліку моладзі, з Бацькаўшчыны ды зь іншых краінаў Захаду. Удзельнікі Сустрэчы ўшануюць вялікія сёлетнія юбілеі Францішка Скарыны і Францішка Багушэвіча, а таксама абмяркуюць справу далейшае дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Разам з тым Сустрэча адзначыць і яшчэ адно дасягненьне беларускае грамады ў Кліўленьдзе — пабудову на Полацку вялікага грамадзкага цэнтру.

Арганізатары Сустрэчы зварачаюцца да ўсіх суродзічаў з запросінамі й заклікам: падтрымайце Сустрэчу сваім асабістым удзелам, гэтым Вы ўзмоцніце справу Беларускага Адраджэньня і дапаможаце тым, хто пакутуе фізычна й маральна ад чарнобыльскае катастрофы.

**Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**
**і Згуртаваньня Беларусаў Канады**

*Падзяка*

## ПАСЬЛЯ БЕЛАСТОКУ — МЕНСК

Напярэдадні свайго падарожжа ў Менск ды ў іншыя гарады Беларусі танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» хоча падзякаваць ахвярадаўцам, якія шчодра падтрымалі леташняе наведаньне «Васільком» Беласточчыны. Там завязаліся кантакты й сяброўства, дзякуючы чаму адбываецца сёлетняе падарожжа «Васілька» на Беларусь (19. VI-I.VII). Падарожжа гэтае — ня толькі выступленьні з танцамі, але й нагода завезьці мэдыкамэнты й падарункі дзецям, што хварэюць ад чарнобыльскай радыяцыі.

Летась «Васільку» дапамаглі грашыма суродзічы, якім належыцца прызнаньне за разуменьне важнасьці культурных сувязяў паміж Беларусамі, дзе-б яны ні жылі. Добры пачатак прывёў да пашырэньня й замацаваньня беларускага адзінства, у якім трэба бачыць поступ Адраджэньня Беларусі. Маючы надзею, што адказ беларускага грамадзтва на сёлетнюю просьбу «Васілька» аб грашовай дапамозе будзе ня менш шчодрым, «Васілёк» з удзячнасьцяй называе арганізацыі й асобы, што дапамаглі яму летась: царква Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, Фундацыя імя П. Крэчэўскага, фірма мэталёвых вырабаў Лук'янчыка, галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, ньюёркскі адздзел БАЗА, царква Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку, Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар ў Саўт-Рывэры, Згуртаваньне Беларусаў Канады;

А. Адамовіч, І. Гайдзель, Я. Запруднік, Ю. Кіпель, Ул. Набагез, Г. Русак, М. Грэбень, К. і А. Мерляк, В. і В. Рамук, В. і Дж. Станкевіч, Дж. і Л. Татум, Л. і Э. Трусэвіч, В. Тур, Ул. і Л. Брылеўскі, М. Ганько, М. і Л. Шчорс, А. Акановіч, М. Бахар, Л. Літаровіч, Я. і Л. Арцюх, Ю. Наумчык, С. Рагалевіч, І. Шчорс.

Усім вялікі дзякуй.

Жыве Беларусь!

## ГОСЬЦЬ ЗЬ ВІЛЬНІ

Беларусы Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы мелі прыемнасьць сустрэчы із сп. Сьцяпанам Душэўскім, суродзічам зь Вільні, сынам заслужанага беларускага дзеяча Клаўдзія Душ-Душэўскага. У нядзелю 13 траўня ў часе багаслужбы ў царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Васіль Андрэюк прывітаў гасьця цёплымі словамі. Пасьля багаслужбы сп. Душэўскі расказаў пра апошнія падзеі ў Літве, пра жыцьцё беларускае грамады ў Вільні, беларуска-літоўскія й беларуска-польскія дачыненьні.

Падобная сустрэча адбылася наступнае нядзелі ў Кліўленьдзе, дзе была скліканая нарада прадстаўнікоў БАЗА і ЗБК у сувязі зь сёлетняй сустрэчай Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ

На Беларусі нарадзілася 6 красавіка сёлета новая арганізацыя — Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў, якое ставіць сабе мэтай абарону студэнцкіх правоў, каардынацыю дзейнасьці студэнцкіх суполак. ЗБС адразу-ж выступіла за дэідэалігізацыю навучаньня, адмену курсаў марксысцкіх навук ды за ўвядзеньне ў кожным інстытуце курсу гісторыі й мастацтва Беларусі. Пэтыцыя аб гэтым, пад якой падпісалася колькі тысячаў студэнтаў, перададзеная ў міністэрства адукацыі і міністэрства культуры. Чыноўнікі абяцалі даць адказ за месяц часу.

## ТЭЛЕГРАМА БАЗА ПРЭЗЫДЭНТУ ЛАТВІІ

05./11/90

ANATOLIJS GORBUNOVS PRESIDENT
SUPREME COUNCIL OF LATVIA
RIGA
LATVIA (SOVIET UNION)

BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION SENDS YOU BEST WISHES OF SUCCESS IN YOUR STRUGGLE FOR DEMOCRACY AND INDEPENDENCE. FOR CENTURIES BYELORUSSIANS AND LATVIANS HAVE LIVED IN PEACE WITH EACH OTHER AND WE ARE CONVINCED THAT THIS RELATIONSHIP OF MUTUAL RESPECT WILL HELP BOTH BYELORUSSIAN AND LATVIAN NATIONS IN ADVANCING THE CAUSE OF FREEDOM AND NATIONAL SOVEREIGNTY.

ANTON SHUKIELOYTS, PRESIDENT

## НА ПЕРШАМАЙСКАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў МЕНСКУ

Як падаў маскоўскаі незалежны бюлетэнь «Экспресс-хроника» («НРС», 13. I), каля 40 асобаў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі і лёзунгамі ў падтрыманьне незалежнасьці Літвы, абыйшоўшы міліцэйскі заслон, прайшлі паўз урадавую трыбуну. Пасьля адыходу гасьцей з трыбуны 7 асобаў былі затрыманыя й пасаджаныя ў аўтабус. Паводле сьветкаў арышт суправаджаўся біцьцём. У пратаколах выстаўлечае абвінавачаньне арыштаваным паводле арт. 166 крымінальнага кодэксу БССР («злосчае непаслушэнства законным патрабаваньням працаўнікоў міліцыі»).

### КАТАЛІЦКІ ГУРТОК У МЕНСКУ

У Менску зарганізаваўся гуртох беларускамоўных каталікоў лацінскага абраду. У яго ўвайшлі, у асноўным, маладыя хлопцы, якія з дапамогай ксянДза Яна Матусевіча, аднаго з тых, што вядуць набажэнства на беларускай мове, будуць вывучаць сьв. Пісаньне, рэлігійныя абрады.

### НОВЫ СКЛАД ВС БССР

15-га траўня пачаў парцаваць новы парлямант рэспублікі, Вярхоўны Савет БССР. У ягоным складзе 323 дэпутаты (усіх месцаў у ВС 360, але ня ўсюды кандыдаты набралі патрэбную большасьць галасоў). З 323-х дэпутатаў 291 (89,8%) — сябры або кандыдаты КПСС. Сярод дэпутатаў мала жанчын і моладзі, у веку да 30 гадоў усяго 9 асобаў. За старшыню ВС БССР абраны прадстаўнік партапарату — М. Дзямяньцей, ягоным заступнікам — С. Шушкевіч, кандыдатуру якога падтрымваў БНФ.

**З новых выданьняў:**

НАША СЛОВА. № 1, сакавік 1990. Менск. Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны. 16 бб.
ГРУНВАЛЬД. № 2, сакавік 1990. Талін, Эстонія. Газэта Беларускага Культурнага Таварыства «Грунвальд». 8 бб.
КАНТАКТ. № 1(3). Шляхі беларускай думкі. 36 бб.
ЗВАЖАЙ. № 2(58). Таронта, Канада. Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. 8 бб.
ГОЛАС ЧАСУ. № 3(6). Лёндан, Англія. Царкоўна-грамадзкі часапіс. 44 бб.

### «БЕЛАРУСКІ ЦАРКОЎНЫ СЬПЕЎНІК»

Пры цяперашнім попыце на рэлігійную літаратуру падаём, што ў выдавецтве Беларускай Бібліятэкі ім. Францішка Скарыны ў Лёндане выйшаў, пад рэдакцыяй Г. Піхуры-Пікарды, сьпеўнік, у якім зьмешчаныя літургічныя сьпевы кампазытараў Міколы Равенскага, Міколы Куліковіча, Дзімітрыя Верасава, Гаўрыка Піхуры, а таксама народныя напевы.

### НОВАЯ ГАЗЭТА — «СВАБОДА»

Выйшлі два нумары беларускае газэты «Свабода», выданьня Выбарчай камісіі БНФ «Адраджэньне» (тыраж: 30 тыс. экз.). Газэта зьмяшчае востра актуальныя паведамленьні й артыкулы, а таксама гістарычныя й літаратурныя матар'ялы, што маюць дачыненьне для бягучых падзеяў і нацыянальнага Адраджэньня.

Калі хто хоча падпісацца на газэту або паслаць грошы на ейнае выданьне, пішыце на адрас:

СССР, Беларусь, 220600 Менск,
вул. Ф. Скарыны, д. 3, п.35
Бяляцкаму Алесю В.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## КАМІТЭТ БНФ «ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ»

**Заблытваньне тоеснасьці**

Камітэт Беларускага Народнага Фронту «Дзеці Чарнобыля» быў створаны ў красавіку 1989 году. За гэты час ягоныя сябры пад кіраўніцтвам Генадзя Грушавога зрабілі вельмі шмат. Актыўна працуе ў камітэце жонка Грушавога Ірына. Падарожжы Генадзя й Ірыны Грушавых у заходня-эўрапейскія краі выклікалі вялікі рэзананс. Прыкладам, парлямант Нарвэгіі пастанавіў разгледзець у хуткім часе пытаньне фінансавай дапамогі Беларусі. Дзейнасьць камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» забясьпечыла таксама пэўную колькасьць дэфіцытных мэдыкамэнтаў і чыстых харчоў для ахвяраў Чарнобыля.

Уся вялікая праца, якую прарабіў дасюль камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля» праводзіцца ў цяжкіх умовах нелегальнага існаваньня — без адпаведнага памешканьня, канцылярскай і іншай дапамогі.

Цяпер менская бюракратыя пачала зь іншага боку абмяжоўваць дзейнасьць камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» — стварэньнем новых структураў з гэткімі-ж назовамі. Такім чынам, сёньня ў рэспубліцы ўжо тры гэткія арганізацыі. Апошняе новаўтварэньне «Дзеці Чарнобыля» было створанае зь ініцыятывы дзяржаўнага апарату напярэдадні чарнобыльскага тэлемарафону, што адбыўся 26 красавіка. Узначальвае гэтую арганізацыю дачка былога першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава — Натальля Машэрава. Камітэт Н. Машэравай адмовіўся кантактавацца з франтаўскім камітэтам «Дзеці Чарнобыля». Паводля менскіх крыніцаў, камітэт Н. Машэравай павінен адыграць ролю своеасаблівай нажыўкі ахвяраваньняў з-за мяжы, паколькі замежнікі заявілі, што будуць месьц дачыненьне толькі з грамадзкімі арганізацыямі.

(*Паводля матар'ялаў Беларускае праграмы радыястанцыі «Свабода»*)

*З жыцьця ў Чыкага*

## РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

• 30-га сакавіка на слуханьнях у гарадзкой управе адносна дапушчэньня ў Амэрыку імігрантаў з Цэнтральнае і Ўсходняе Эўропы ад Беларусаў выступілі Вера і др. Вітаўт Рамукі. Падкрэсьліваючы жахлівыя ўмовы жыцьця ў забруджаных радыяцыяй тэрыторыях і нагадваючы зварот ураду БССР з просьбай аб дапамозе, яны прасілі, каб Амэрыка прыняла эмігрантаў з гэтых тэрыторыяў. 6-га красавіка на паседжаньні гарадзкой управы быў аднагалосна прыняты адпаведны зварот і перасланы ў Вашынгтон.

• 10-га красавіка прыбыла ў Чыкага дэлегацыя Беларускага цэнтру савецка-амэрыканскай праграмы «Дзеці — творцы 21-га стагодзьдзя» з мэтай арганізацыі дапамогі дзецям-ахвярам Чарнобыля. У складзе дэлегацыі былі Тамара Сушко, Віталі Гавака і Эдуард Цярэньцьеў, якія затрымаліся ў а. Канстантына Бандарука, настаяцеля Беларускай праваслаўнай царквы сьв. Юр'я.

Тамара Сушко паінфармавала Веру й др. Вітаўта Рамукоў пра крытычны стан мэдычнае дапамогі чарнобыльцам ды прасіла наладзіць кантакт з амэрыканскімі мэдычнымі арганізацыямі адносна патрэбнай дапамогі. Былі ўстаноўленыя кантакты і атрыманыя абяцаньні, што справа будзе ўзятая пад развагу.

Атрыманая ад дэлегацыі відэайстужка аб наступствах Чарнобыля была паказаная на паседжаньні арганізацыі Народаў Усходняе і Сярэдняе Эўропы і ў царкве Хрыста Збаўцы.

• 27-га красавіка сп-ня Вера Рамук выступіла ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту перад украінскай грамадой на мэмарыльным вечары з нагоды чацьвертых угодкаў чарнобыльскай аварыі і расказала пра вынікі гэтае катастрофы на Беларусі ды заклікала абодвы народы да супрацоўніцтва.

**Вір**




*Фрагмэнт выстаўкі дзіцячых малюнкаў на тэму Чарнобыля перад будынкам ААН у Нью-Ёрку 26.IV.1990 г. Выстаўку арганізаваў сп. Валеры Шчукін. Малюнкі прывёз з Беларусі сп. Уладзімер Ліпскі. Малюнкі перададзеныя ў Ньюёркскую Публічную Бібліятэку.*

## ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ЎГОДКІ Ў ТАРОНТА

Чацьвертыя ўгодкі радыяктыўнага выбуху ў Чарнобылі былі адзначаныя сёлета ў Таронта жалобнай маніфэстацыяй, што адбылася ўвечары 26 красавіка перад парлямэнтам правінцыі Антарыё. Арганізаваў падзею таронтаўскі аддзел Камітэту Ўкраінцаў Канады (КУК). Над тысячнай дэманстрацыяй узьвіваліся таксама бел-чырвона-белыя сьцягі ўва ўсёй сваёй красе. На сцэне за прастолам стаялі тры япіскапы — два ўкраінскія й беларускі Ўладыка Мікалай — і два сьвятары, далей — прадстаўнікі ўраду й парлямэнту Антарыё, украінскіх і этнічных арганізацыяў. Важнае месца ў маніфэстацыі займала зарганізаваная ўкраінская моладзь і дзеці.

Урачыстасьць пачалася канадзкім гімнам. Уступную прамову меў старшыня КУК, пасьля яго прамаўлялі прадстаўнікі ўраду й парлямэнту Антарыё, тады слова было дадзена старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Раісе Жук-Грышкевіч. Як пераважна ўсе прамоўцы, гаварыла яна паангельску.

Хоць Чарнобыль знаходзіцца на Ўкраіне, — сказала прамоўца, — ды ён толькі 5 км. на поўдзень ад граніцы Беларусі. Паўночна-заходнія вятры ў часе чарнобыльскага выпадку спрычыніліся да таго, што найбольшая частка радыяктыўнага матар'ялу, дакладней кажучы, 70 працэнтаў яго, апала на Беларусь. Пасьля колькіх дзён, калі напрамак ветру зьмяніўся й радыяктыўныя хмары пайшлі ў кірунку Масквы, быў штучна выкліканы дождж над усходняй часткай Беларусі, каб ратаваць ад радыяактыўных хмараў Маскву. У выніку гэтага дажджу, радыяактыўная насычанасьць у паўдзённа-усходняй частцы Магілеўшчыны вышэйшая, як у 30-кілямэтровай зоне вакол Чарнобыля. Выпадак у Чарнобылі заразіў радыяактыўнасьцю палову тэрыторыі Беларусі, пятая частка ворнае зямлі Беларусі няпрыгодная для земляробства. Больш за два мільёны жыхароў Беларусі — падлеткаў, дзяцей, цяжарных жанчын — жыве ў моцна заражаных раёнах, харчуецца заражанымі прадуктамі, у той часе як чыстыя прадукты вывозяцца зь Беларусі ў іншыя рэспублікі Савецкага Саюзу. Савецкі ўрад відавочна ня дбае, што дзеецца зь беларускім народам. А людзі, асабліва дзеці, хварэюць, паміраюць, родзяцца здэфармаванымі.

**У далейшай пэрспэктыве эфэкт чарнобыльскае катастрофы расцэньваецца вучонымі як больш зьнішчальны,** чымся Гірасіма й Нагасакі.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і ўся Беларусь зьвяртаюцца да людзей цэлага сьвету з просьбай дапамагчы ім дастаць дыягнастычную апаратуру, мэдычныя прылады, лякарствы. Беларускі народ у няшчасьці патрабуе нашае дапамогі, і мы, злучыўшы ўсе сілы разам, мусім яе даць.

Было пасьля шмат іншых прамоваў. Зрабілася цёмна. У руках прысутных загарэлася тысяча агеньчыкаў сьвечак. Даўгой вялікоднай багаслужбай, з удзелам хору, малітвамі за ахвяраў Чарнобыля закончылася ўрачыстасьць.

**Р. Жук-Грышкевіч**

### УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ

У аўстралійскім горадзе Мэльбурне 29 красавіка Ўкраінцы зарганізавалі валікую дэманстрацыю, у якой узяло ўдзел каля 50 прадстаўнікоў беларускае грамады са сьцягамі й плякатамі. У парку сабралася колькі сот людзей. Была адслужаная паніхіда. Прамаўляла шмат людзей, у тым ліку прадстаўнікі аўстралійскага ураду.

Газэты ў Аўстраліі пішуць пра цяжкія наступствы чарнобыльскай аварыі. Беларусы Аўстраліі сабралі каля 30 тысячаў даляраў на дапамогу ахвярам Чарнобыля. Грошы будуць перасланыя ў Лёндан, дзе можна найтаньней купіць патрэбныя мэдыкамэнты, вітаміны ды мэдыцынскія прылады.

**М. Н.**

### ЧАРНОБЫЛЬ: ЗАМЕЖНЫЯ ЭКСПЭРТЫ

Савецкі ўрад пастанавіў запрасіць «колькі дзесяткаў» замежных спэцыялістаў самых розных профіляў, каб яны прааналізавалі падзеі, што прывялі да цяперашняга палажэньня ў чарнобыльскай зоне, і далі «прагноз мэдыцынскіх і экалягічных абставінаў у забруджанай зоне на 30-50 гадоў наперад». «Замежныя экспэрты, — піша «Правительственный Вестник» (№ 19/90), — ацэняць розныя крытэрыі, патрэбныя для прыняцьця пастановаў, супастаяць прапановы савецкіх вучоных з крытэрыямі, якімі карыстаюцца ў іншых краінах, дадуць свае высновы».

**Штаб-кватэра праекту мае быць у Гомелі, а тры філіялы — у Кіеве, Менску й Новазыбкаве. Экспэрты прывязуць свае камп'ютэры для апрацоўваньня інфармацыі.**

### НА РАДЫЯКТЫЎНЫХ ТЭРЫТОРЫЯХ

На забруджаных чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыях Беларусі, Украіны й Расеі жыве цяпер больш за чатыры мільёны чалавек. Найбольш пацярпела Беларусь, пятая частка тэрыторыі якое з жыхарствам 2,2 млн. чалавек пакрыта радыяцыяй. Як сказаў на вясеньняй сэсіі эканамічнае й сацыяльнае рады ААН у Нью-Ёрку намесьнік старшыні Рады Міністраў БССР Аляксандар Кічкайла, «на моцна забруджаных тэрыторыях (БССР), дзе немагчыма вырабляць экалягічна чыстую прадукцыю, працягваюць жыць і працаваць 164 тысячы людзей».

*(Паводля ТАСС, 2.V.90)*

**ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА**

ў канадзкай прошчы ў Мідляньдзе, Антарыё

**16 чэрвеня 1991 г.**

Багаслужбу адправіць а. Язэп Сыру з царквы Хрыста Збаўцы Чыкага (пачатак а 10-й гадз.). Малітвы будуць за Беларускае Адраджэньне і за ахвяры атамнага й духовага Чарнобыля.
Па інфармацыю зварачацца да:

Dr. Raisa Zuk-Hryškievič
54 Mary st.
Barrie, Ont. L4N 1T1
Tel. (705) 728-7581

### БАГАСЛУЖБА ЗА АХВЯРАЎ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

1-га травеня сёлета, на 4-я ўгодкі выбуху атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі, у касьцёле Сьв. Марыі ў гор. Бэры ў Канадзе адбылася сьв. Імша на інтэнцыю ахвяраў Чарнобыля ў Беларусі. Служыў а. Пол Сэбор. У сваёй казані ён гаврыў пра гора й цярпеньні жыхароў Беларусі й суседніх краінаў з прычыны чарнобыльскай ядзернай катастрофы.

Пасля багаслужбы прыяцелі Беларусаў сабраліся ў кватэры Жук-Грышкевічаў на полудзень, у часе якога гаспадыня дому расказала прысутным абшырней пра сытуацыю ў Беларусі, дзе найбольш тэрыторыі затручана радыяактыўным матар'ялам і найбольш людзей церпіць з прычыны Чарнобыля.

**Р. Жук-Грышкевіч**

### БПЦ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Часапісы «Спадчына» і «Беларусь» пачалі друкаваць сёлата беларускія пераклады Евангельля. Але ня чуваць, каб кіраўніцтва Беларускае Праваслаўнае Царквы на чале зь Мітрапалітам Менскім і Горадзенскім Філарэтам рабіла захады для далейшае беларусізацыі рэлігійнага жыцьця. Гэткая бязьдзейнасьць, як выглядае, мае карані больш у мясцовай глебе, чымся ў Патрыярхаце ў Маскве, бо вось на першым паседжнаньні Сыноду Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы, як падаў ТАСС (10. II. 90), Мітрапаліт Кіеўскі і Галіцкі Філарэт сказаў, што «багаслужбы праводзяцца ў дзьвюх мовах — царкоўна-славянскай і ўкраінскай... У духоўных сэмінарыях у Кіеве, Адэсе шмат гадоў выкладаюцца ўкраінская мова й літаратура. Плянуецца адчыніць яшчэ адну сэмінарыю з выкладаньнем поўнасьцяй на ўкраінскай мове».

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫ МАТАР'ЯЛ

Нам прыслалі газэтныя выразкі або ксэракопіі прэсавых матар'ялаў, зь якіх рэдакцыя скарысталa, наступныя асобы: А. Маркевіч, П. Смаршчок, К. Верабей, Я. В., Я. Мойсік, а. Р. Тамушанскі, В. Махнач, Л. Шурак, М. Грэбень, М. Раецкі, А. Монід, С. Яновіч, М. Нікан, Б. Даніловіч, Ю. Туронак, А. Здановіч.
Усім шчырая падзяка!

**Рэдакцыя «Беларуса»**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# КАНФЭРЭНЦЫЯ НАРОДАЎ БЫЛОЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЕ

**«Асновы гістарычных і культурных традыцыяў у Цэнтральна-ўсходняй Эўропе: Беларусь, Літва, Польшча, Украіна».**

У Рыме адбылася пяцідзённая (30.IV-4.V.1990) канфэрэнцыя прадстаўнікоў навукі й культуры чатырох народаў, што ўваходзілі ў былую Рэч Паспалітую: польскага, беларускага, літоўскага і ўкраінскага. Падзею гэтую арганізаваў Польскі Інстытут Хрысьціянскае Культуры, што знаходзіцца ў Рыме, у супрацоўніцтве зь філядэльфійскім украінскім Інстытутам Дасьледаваньня Усходняе Эўропы імя Лыпынскага, ньюёркскім Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ды Літоўскай Каталіцкай Акадэміяй Навук у Рыме. На канфэрэнцыю было запрошана 58 асобаў дакладчыкаў, супрацоўнікаў вышэй названых інстытутаў, а таксама навуковых установаў Варшавы, Кракава, Любліна, Менску, Вільні, Кіева. Бальшыня зь іх прыбыла на канфэрэнцыю. Усе шкадавалі, што ня прыехаў Васіль Быкаў, які быў запрошаны таксама, але нехта ў Вандзі пастараўся, каб запросіны да пісьменьніка не дайшлі.



*Сп. Адам Мальдзіс перадае Папу Яну Паўлу II падарунак — энцыкляпэдычны даведнік «Францыск Скарына і яго час». Каля іх і за імі стаяць: праф. Анатоль Грыцкевіч, сп-ня Зора Кіпель, др. Янка Запруднік.*

Беларускія дакладчыкі гаварылі (храналягічна) на тэмы: Янка Запруднік (Нью-Ёрк) — «Гістарычныя й культурныя асновы нацыянальнай сьведамасьці Беларусаў»; Зора Кіпель (Нью-Ёрк) — «Беларускі 'Трыстан' (аповесьць з XVI-га ст.); а. Аляксандар Надсон (Лёндан) — «Асновы рэлігійнага й культурнага жыцьця Беларусаў»; Анатоль Грыцкевіч (Менск) — «Вуніяцкія тэндэнцыі і Вуніяцкая Царква ў Беларусі ў XV-XVIII стст.»; Адам Мальдзіс (Менск) — «Францішак Скарына — пасярэднік паміж хрысьціянскім Усходам і Захадам»; Юры Туронак (Варшава) — «Праблемы каталіцызму ў Беларусі» (аналіз статыстыкі беларускіх каталікоў); Вітаўт Кіпель (Нью-Ёрк) — «Беларускае грамадзтва й палітыка ў мінуўшчыне й сучаснасьці»); Вячаслаў Вярэніч (Менск) — «Гістарычныя й культурныя асновы польскае нацыянальнае сьведамасьці ў СССР».

Беларуская тэматыка разглядалася таксама ў дакладах іншых аўтараў: Дмытро Стэповык (Кіеў) — «Віленская Акадэмія і разьвіцьцё выяўленчага мастацтва на Беларусі і на Украіне ў XVIII ст.»; Альжбета Смулкова (Варшава) — «Мова як адлюстраваньне дачыненьняў паіж суседнімі народамі: Палякамі, Літоўцамі й Беларусамі»; Ян Скарбэк (Люблін) — «Зьмены на канфэсійнай карце Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны за апошнія два стагодзьдзі»; Валерыюс Чэкмонас (Вільня) — «Этапы сацыялінгвістычнай гісторыі Віленшчыны і разьвіцьцё польскае нацыянальнае сьведамасьці ў Літве»; Юліюш Бардах (Варшава) — «Літоўскія Палякі ды іншыя народы гістарычнае Літвы — спроба сыстэмнага аналізу».

Па дакладах адбываліся цікавыя, плённыя, часамі вострыя дыскусіі. Старшынямі дзьвюх сэсіяў канфэрэнцыі былі, адпаведна, Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік.

У аўторак 1-га травеня, па вячэры, адбылася гадзінная аўдыенцыя ў Папы Яна Паўла II-га, у часе якое кожны з удзельнікаў канфэрэнцыі меў нагоду прывітаць Сьвяцейшага Айца, перадаць падарунак, выказаць пажаданьне, а на ўспамін сабе атрымаць бронзавы мэдаль з выяваю Папы, а жанчыны — ружанец.

Канфэрэнцыя прайшла ў вельмі прыязнай і дабразычлівай атмасфэры. З кожнага боку адчувалася жаданьне паразуменьня й супрацоўніцтва, гэтак патрэбнага цяпер, калі перабудова ахапіла сабой усю Цэнтральна-ўсходнюю Эўропу. На высокім узроўні быў і арганізацыйны бок канфэрэнцыі, што таксама спрыяла ейнай агульнай удачы.

Паміж беларускімі ўдзельнікамі, хоць яны ў бальшыні сваёй сустрэліся ўпяршыню, адразу-ж запанавалі сяброўскія дачыненьні, узаемазразуменьне й блізіня. Наладзіліся сувязі, якія напэўна будуць карыснымі для далейшае навуковае працы ды справы беларускага прадстаўніцтва на міжнародных форумах.

Працоўнымі мовамі канфэрэнцыі былі польская, беларуская, украінская. Сымбалічна прагучэла на канфэрэнцыі і мова літоўскага народу, хоць, дзеля практычных меркаваньняў, літоўскім калегам давялося карыстацца пераважна польскай мовай.

Даклады маюць выйсьці асобным зборнікам.

Арганізатары канфэрэнцыі, як і ейныя ўдзельнікі разьехаліся з моцным уражаньнем, што такога роду сустрэчы й дэбаты трэба працягваць, бо яны вядуць да большае ўзаемаабазнанасьці, да ўсьведамленьня, што ў нашай супольнай мінуўшчыне ёсьць шмат хрысьціянскіх і дэмакратычных вартасьцяў, якія маюць у сабе патэнцыяльна моцную аснову для мірнага добрасуседзкага сужыцьця й плённага супрацоўніцтва.

**Я. З.**

Зора Кіпель

# *РЫМСКІЯ СУСТРЭЧЫ*

Прыляцелі мы на канфэрэнцыю ў Рым у нядзелю 29-га красавіка. Хутка залагодзілі ўсё на аэрапорце. Знайшлі таксі і бязь ніякіх прыгодаў — акрамя таго, што тут усе езьдзяць як вар'яты, у чым мы пазьней ці раз мелі нагоду пераканацца, — дабраліся да Цэнтру, дзе мела адбывацца канфэрэнцыя (гл. артыкул-справаздачу Я. Запрудніка). І трапілі, як кажуць, «з карабля ды на баль». Тут ужо ўсе зьбіраліся на экскурсію. Пасьпелі мы толькі занесьці рэчы ў свае пакойчыкі-кельлі. Праўда, зазванілі яшчэ да дачкі Алесі, якая была якраз у Рыме, каб даць ёй знаць дзе мы. Янка Запруднік і Юры Туронак таксама ўжо былі прыехаўшы раней. Спаткаліся зь імі на дворыку, дзе яны чакалі на аўтабус. З Туронкам сустрэліся першы раз, хоць было такое ўражаньне, што ведаем. яго гадамі, гадамі.



*Беларускія ўдзельнікі канфэрэнцыі зь літоўскімі, польскімі і ўкраінскімі калегамі ў часе экскурсіі.*

Экскурсія нашая была ў старажытнае рымскае пасяленьне Остыя, што міляў 15 ад Рыму. Па старой рымскай дарозе, што надзіва добра захавалася, падыходзілі мы да руінаў партовага места, якое квітнела ў 2-м стагодзьдзі да нашай эры. Неяк ня верылася, што стагодзьдзямі па гэтай дарозе, гэтых камянёх хадзілі й езьдзілі Рымляне, і іхныя ворагі, і шматлікія прыяцелі-купцы з розных краінаў, а цяпер вось дыбаем па ёй і мы — наведнікі-Беларусы.

Была нас спачатку невялічкая група, але чым далей, тым болей знаходзілі прыяцеляў Беларусаў. Пазнаёміліся з маладой Літоўкай Ірэнай Чэкмонас, якая вучылася ў Менску й цудоўна гавора пабеларуску, ды з прафэсарам Віленскага Унівэрсытэту Літоўцам Чаславам Кудабам, якога па мове не адрозьніш ад Беларуса. У цяньку старых руінаў спаткаліся і прафэсарам Альжбэтай Смулковай, якая пачула беларускую мову й сама да нас загаварыла пабеларуску. Смулкова — польская славістка, якая спэцыялізуецца ў беларускай лінгвістыцы ды мае шмат публікацыяў зь беларусаведы. Хутка да нас далучылася й наша дачка Алеся. Аднак самая цікавая, можна сказаць, гістарычная, сустрэча адбылася крыху пазьней, падчас абеду, калі мы спаткаліся зь менскімі Беларусамі Адамам Мальдзісам і Анатолем Грыцкевічам. Спаткаліся як са старымі знаёмымі, зь якімі гэтак шмат супольнага, гэтак шмат аб чым ёсьць гутарыць і разважаць. Вось гэткая атмасфэра сяброўства й супольнасьці панавала праз цэлы наш пабыт у Рыме ды, спадзяёмся, затрымаецца й надалей. Пазьней да нас далучыўся яшчэ трэйці мянчанін Вячаслаў Вярэніч ўжо як на дворыку каля рэстарану рабілі здымку, была нас добрая група — Беларусаў і нашых іншых сяброў.

У панядзелак спаткаліся зь Янкам Мойсікам зь Беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё, а ў аўторак — і з а. Аляксандрам Надсонам.

У аўторак была яшчэ адна незабыўная падзея — мелі аўдыенцыю у Сьвятога Айца Яна Паўла II-га. Было гэта першае ў гісторыі такое спатканьне, дзе Беларусы з Бацькаўшчыны разам зь Беларусамі замежжа размаўлялі з Папам ды ў унісон дамагаліся беларускае мовы ў беларускіх сьвятынях.

У чацьвер 3-га траўня мелі папаўдні вольны ад нарадаў час, дык выкарысталі гэтую нагоду, каб крыху зьведаць Рым ды наведаць Беларускую рэдакцыю радыё-Ватыкана, пазнаёміліся там з новым маладым супрацоўнікам радыё Алесем Максымюком. А ў пятніцу мелі прыемнасьць усе гасьціць у Янкі Мойсіка, дзе быў і Алесь Максымюк са сваёй сяброўкай Іркай Кавалік. Тут яшчэ была адна неспадзеўка — прыехала, каб пабачыцца з усімі намі, дачка Мар'яна Пецюкевіча, Марыля — маладая, энэргічная асоба, якая шмат нам расказала пра свайго бацьку, ведамага беларускага этнографа. Тут-жа ў Мойсіка быў урачыста заснаваны Рымскі гурток Таварыства Беларускай Мовы.

Яшчэ адно спатканьне, якое не хацелася-б абмінуць — гэта гутарка з лаўрэатам Нобэлеўскай прэміі польскім паэтам Чаславам Мілашам, які расказаў нам пра сваю сувязь зь Віленскімі беларускімі студэнтамі ў 30-х гадох. Ён вельмі прыхільна адазваўся на прапанову выставіць кандыдатуру Васіля Быкава на прэмію Нобэля. Часлаў Мілаш належыць да шмат якіх культураў, ён як-бы ўвасобіў у сабе ўсю сутнасьць нашай канфэрэнцыі: польска-літоўска-беларуска-украінскую супольнасьць.

Сама канфэрэнцыя — гэта важная гістарычная падзея і аб палітычнай і навуковай важнасьці яе будзе яшчэ шмат гаварыцца, аднак чалавечы элемэнт гэтага зьезду — сяброўскія дыскусіі ў кулюарах, абмены думкамі, ідэямі, аднаўленьне даўных знаёмстваў, навязаньне новых — ня менш важны мамэнт. Адным з такіх чалавечых аспэктаў канфэрэнцыі быў цёплы й шчодры водгук італьянскай прыхільніцы нашага збору, маркізы Ванды Гаўронскай на заклік Адама Мальдзіса аб дапамозе ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Нашая беларуская дэлегацыя павезла на Бацькаўшчыну скрынкі зь вітамінамі для дзяцей.

Рымскія сустрэчы застануцца доўга ў памяці ўсіх нас.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





# «ШУКАЕМ СВАІХ КАРАНЁЎ»

Шаноўная рэдакцыя, паважаныя спадары!

Дазвольце праз вашую газэту выказаць пачуцьці, выкліканыя спаўненьнем нашае мары. Мары, якая зьдзейсьнілася дзякуючы таму, что Беларусы, у якой-бы частцы сьвету яны ні жылі, аказаліся неразьяднанымі ніякімі межамі ды ўмоўнасьцямі.

Усе гэтыя думкі — з нагоды выхаду ў сьвет нашае кнігі «Праз рок-прызму» (БІНіМ, 1989).

каб зьнішчыць усю працу.

Перш за ўсё дзякуем фундатарам нашага праекту і выдавецкаму калектыву Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, друкаром «Маравія Паблішынг Лімітэд» у Таронта.

Асабістая падзяка ад аўтараў спадару Кастусю Акулу — клапатліваму й нястомнаму хроснаму бацьку нашага зьдзейсьненьня; спадару Яну Запрудніку — уважліваму й дэмакратычнаму адказнаму рэдактару; яго паплечніку



*Мянчане Анатоль Мяльгуй (зьлева) і Вітаўт Мартыненка — аўтары кнігі «Праз рок-прызму» (выданьне БІНіМ, 1989).*

Зараз мы, Беларусы, шукаем сваіх каранёў, каб адрадзіць нацыю. Але ў гэтым шуканьні не павінны забывацца на авангардныя напрамкі культуры, каб нашыя нашчадкі з-за нашых памылак не апынуліся ў ролі марных шукальнікаў. Зрэшты, хай яны заўсёды будуць шукальнікамі, толькі ня марнымі.

Спадзяёмся, што нашая кніга, выдадзеная ў вас, ня дасьць зьнікнуць цэламу пласту беларускае культуры (у дадзеным выпадку масавага гарадзкога фальклёру беларускае моладзі), як гэта ў розных абставінах ужо бывала ня раз.

Зразумела, сёньня мы адчуваем і пэўныя свае пралікі, выкліканыя ідэялягічнымі штампамі, ад якіх, пры ўсім жыцданьні, цяжка адразу пазбавіцца. Але дзякуючы кампэтэнтнаму рэдакцыйнаму калектыву, яго зычлівасьці, усё гэта ня стала зачэпкаю,

Адаму Акулічу; спадарыні Паўліне Сурвіла — глыбока ўнікліваму аналітыку ў гэтай спэцыфічнай працы; спадару Паўлу Янкоўскаму, які ў свой час падаў першую вестку надзеі ў гэтай справе.

Праз газэту «Беларус», якую ў нас з павагай чытаюць, просім перадаць таксама падзякі тым, хто істотна паўплываў на станаўленьне нашых поглядаў: слыннаму беларускаму паэту Анатолю Сысу, сапраўднаму беларускаму інтэлігенту Вінцуку Вячорку, палымянаму палітычнаму дзеячу «Адраджэньня» Зянону Пазьняку. Ня было-б іх у нашым лёсе, ня ведаем, якімі былі-б і мы самі.

Вялікі дзякуй усім!

Жыве Беларусь!!!

З пашанаю

**Вітаўт Мартыненка**

**Анатоль Мяльгуй**

Менск, 12.IV.1990

---

**Сяргей Шупа**

## *ДРУКАВАНЫ ПАЧАТАК Н. АРСЕНЬНЕВАЙ*

Калі ўпяршыню былі надрукаваныя вершы Натальлі Арсеньневай? Здавалася-б, пытаньне гэтае даўно ўжо не павінна выклікаць ніякіх спрэчак. Дастаткова, прыкладам, зазірнуць у прадмову Ант. Адамовіча да найпаўнейшага зборніка вершаў паэткі «Між берагамі», і адразу можна знайсьці канкрэтны адказ — у 1921 годзе. Тая самая дата прагучала нядаўна і ў сэрыі радыёперадачаў, прысьвечаных творчасьці паэткі.

А тымчасам ужо 16 лістапада 1920 году аднаўленая стараньнямі Антона Луцкевіча віленская газэта «Наша Ніва» надрукавала ў сваім № 4 верш Арсеньневай «Восень». Зь вялікаю доляй верагоднасьці можна меркаваць, што гэта і быў першы выступ паэткі, тады яшчэ вучаніцы Віленскай беларускай гімназіі, у пэрыядычным друку. Дарэчы, газэта гэтая ня згадваецца ў грунтоўнай бібліяграфіі пэрыёдыкаў, зьмешчанай у падрыхтаваней З. і В. Кіпелямі кнізе «Byelorussian Statehood», і гэта дае падставу меркаваць, што эміграцыйным дасьледчыкам, у тым ліку Ант. Адамовічу, крыніца гэтая была недаступная. Ад 28 кастрычніка да 20 сьнежня 1920 году выйшла дзевяць нумароў «Нашае Нівы», надзвычай цікавай і зьмястоўнай газэты, сярод аўтараў якое можна сустрэць Антона Луцкевіча (Ант. Навіна, І. Мялешка), Максіма Гарэцкага, Казіміра Сваяка, Сяргея Чараўніка (мо хто падкажа, хто гэта?) і ўрэшце Натальлю Арсеньневу, якая ў наступных пасьля 4-га нумарох была прадстаўленая яшчэ трыма вершамі. Пішучы гэта, не прэтэндую на нейкае адкрыцьцё, бо пра гэтыя публікацыі добра ведаюць у нас тыя, хто з абавязку або цікаўнасьці перагаладае часам старыя выданьні.

Такім чынам, сёлета мы можам урачыста сьвяткаваць 70-годзьдзе літаратурнае дзейнасьці нашай цудоўнай і незраўнанай паэткі.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# НА ПРАВАДЫ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Так як некалісь у Пружанах у сыботу перад праваднной нядзеляй на магілках людзі пасьля зімы папраўлялі насыпы магілаў, садзілі на іх кветкі, клалі вялікодныя яйкі, бо назаўтра, у нядзелю, працэсія з сабору Аляксандра Неўскага й Прачысьценскай царквы прыходзіла на могілкі, адбывалася ў капліцы (якой цяпер няма) багаслужба, а пасьля сьвячэньне магілак... Шматлюдная працэсія з харугвямі й бязупынным пяяньнем затрымвалася на часінку перад Крыжам, што на рагу вуліц Горкі й Хваткі, дзеля кароткай малітвы. Ля гэнага Крыжа мы, дзеці, штадня праходзілі, бягучы ў школу, і мы павінны былі каля яго затрымацца й перажагнацца. Цяпер там Крыжа няма, стаіць спажывецкая крама...

заснуўшых слуг Божых...», а сьпісак іх даўгі, даўгі...

— Ужо іх больш там, як нас тут засталося, — шэптам кажа мне сп-ня Стагановіч старэйшая.

— Гэта-ж ня толькі тыя, што тут памерлі, а й нашы на Бацькаўшчыне, — адказваю ёй таксама шэптам.

Не працэсіяй з харугвямі й пяяньнем, як некалі ў Пружанах, а аўтамі едзем, бо надта далёка да беларускага могільніку Жыровіцкае Божае Маці, што ў Іст-Брансьвіку. Прыехалі на час, але месца на запаркаваньне аўта ўжо цяжка было знайсьці, бо маса народу.

Урачыстасьць пачалася багаслужбай перад помнікам «Тым што памерлі, как жыла Беларусь». Думала: як добра,



*Айцец Васіль Андрэюк у Вялікодную ноч сьвеньціць пасху ў залі пад царквой Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку. Фота Алега Дубягі.*

Пішу ня зусім на тэму. Гэты прыгожы беларускі звычай аддаваньня пашаны й падзякі продкам, утрымоўваньне духовай лучнасьці зь імі і веры ў жыцьцё вечае перанёсься зь Беларусі ў Амэрыку, у беларускую царкву Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку і ў Іст-Брансьвік на беларускі могільнік...

У сыботу а 6-ай вечара ў царкве Жыровіцкай Божай Маці напевам «Хрыстос уваскрос із мёртвых...» а. Васіль Андрэюк пачынае даўгую ўрачыстую вячэрню. Хор пад кіраўніцтвам Лявона Стагановіча й людзі пяюць, як некалісь у Пружанах, хіба найпрыгажэйшы з праваслаўных напеваў песьню «Ныне отпущаеши раба Твоего, Владыко, по глаголу Твоему, с миром...» Душа зь песьняй рвецца ўгару, а праз вокны вялікодна прыбранай у бель і кветкі царквы глядзіць у задуменьні зялёная вясна. Пад канец багаслужбы — абрад асьвячэньня пяці хлябоў, якімі Хрыстос накарміў пяць тысячаў народу, і мірапамазаньне.

Усе трымаюць у руках запаленыя сьвечкі — паніхіда. На праваднную нядзелю ў царкве шмат народу. Людзі ня толькі зь Нью-Джэрзы, але й зь Нью-Ёрку ды іншых мясьцінаў ЗША й Канады, шмат маладзейшага пакаленьня, дзеці. У царкве сонечна, урачыста, хор моцны, кіруе ім сяньня Якуб Сапежынскі.

Кажуць, што праваслаўныя багаслужбы даўгія. Алё, даўгія, але прыгожыя, узьнёслыя! Сочыш за кожным словам, ужывешся ў напеў і душа твая ўздымаецца ўвысь, туды, дзе «шчасьлівае жыцьцё, што ў Цябе, Чалавекалюбча.» «Хрыстос Уваскрос! — Запраўды Ўваскрос!» Якая зарука й надзея для нас усіх!

Пры цалаваньні Крыжа атрымоўваем па кусочку сьвянцонай Пасхі, якую сьвятар кажа забраць дамоў і трымаць яе на цяжкую патрэбу...

Усё і ўсё вяртаемся з малітвамі да душ нашых дарагіх нябожчыкаў. Ізноў паніхіда і «молімся за супакой душ

што Беларусы паставілі помнік сваім Гэроям! (Праектаваў помнік, здаецца, Барыс Данілюк.) Гэта ў ЗША. І мы ў Канадзе таксама ўзьнесьлі беларускі манумэнт, каб адзначыць 1000 гадоў хрысьціянства ў Беларусі — Беларускі памятны Крыж, што ў прошчы ў Мідляньдзе. 16-га чэрвеня сёлета ў часе паломніцтва да Беларускага Крыжа будзем маліцца за беларускае «Адраджэньне», за ліквідацыю наступстваў фізычнага й духовага Чарнобыля ў Беларусі. Божа, памажы беларускім Адраджэнцам і ўсім тым, хто стараецца хоць аднэй цаглінкай прычыніцца да адбудовы незалежнай нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Ад магілаў Архіепіскапаў БАПЦ, сьв. пам. Уладыкаў Васіля й Андрэя, пачалося сьвячэньне ўсіх нябожчыкаў папарадку. Пры кожнай «Хрыстос уваскрос зь мёртвых...» пяялі сьвятар і людзі.

Цяпер болей як калі разумею й далёка цэньваю волю сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які, жывучы ў Канадзе, хацеў абавязкава быць пахаваным тут, на беларускім могільніку — сярод сваіх... У Канадзе, хоць ён і стараўся пераканаць людзей, што трэба прыдбаць свой беларускі могільнік, гэтага ня сталася. Ён гаварыў, што свой беларускі могільнік — як кніга застанецца ў гісторыі і будзе гаварыць пра нас, Беларусаў, не пакіне нас бязыменнымі. Вучоныя, казаў ён, вывучаючы старыя цьвінтары, старыя помнікі, каб даведацца, якія людзі тут жылі, чым яны жылі і ў што верылі». Воля сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча была выканана, ён спачывае на беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку. Адведаць яго на праваднную нядзелю я сюды з Канады й прыехала.

У лістападзе мы прыйдзем да вас ізноў, Дарагія. Прыйдзем на Дзяды з малітвай, кветкамі, пашанай і любоўю да вас. Вы сваім жыцьцём збудавалі падмурак для нашай далейшай працы. «Сьпеце, мы вашых павек не забудзем магілаў...»

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





***З жыцьця ў Н.-Дж.***



*Беларускія ўдзельнікі на гадавым этнічным балі ў гор. Эдысане. На балі каля 30 этнічных групаў, у тым ліку й беларуская, паказвалі сваё нацыянальнае адзеньне. Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» выканаў два народныя танцы. Гэткія культурныя падзеі арганізуе Этнічная Рада штату Нью-Джэрзы, у якую ад беларускае грамады ўваходзіць сп-ня Ірэна Рагалевіч-Дутко, здольная і працавітая мастачка й арганізатарка. Фота Надзі Кудасавай.*

# НЕФАРМАЛЬНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСІ

***Ад Рэдакцыі:** Савецкае Агенцтва Друку Навіны (АДН), інфармацыйны орган грамадзкіх арганізацыяў, апублікавала 3.V.1990 г. матар'ял пад заг. «Нефармальныя арганізацыі Беларусі», які поўнасьцяй зьмяшчаем ніжэй.*

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Галоўная мэта гэтага масавага грамадзка-палітычнага руху, як абвешчана ў ягонай праграме, — «стварэньне дэмакратычнага грамадзтва, адраджэньне беларускае нацыі і дасягненьне рэальнага сувэрэнітэту рэспублікі».

Аргкамітэт для заснаваньня Народнага Фронту быў створаны ў Менску 19 кастрычніка 1988 году. Установчы зьезд БНФ адбыўся праз восем месяцаў 24-25 чэрвеня 1989 г. ў Вільні (улады перашкодзілі правядзеньню зьезду ў Менску). У працы зьезду ўзяло ўдзел 399 дэлегатаў, было каля 350 гасьцей.

У кіраўнічы орган — Сойм БНФ абрана 55 чалавек, сярод іх чатыры народныя дэпутаты СССР (у тым ліку пісьменьнік Васіль Быкаў).

Старшыня Сойму — Зянон Пазьняк (46 гадоў), кандыдат мастацтвазнаўства, археалёг, публіцыст, супрацоўнік Інстытуту гісторыі АН БССР.

Заступнікі старшыні: Міхась Ткачоў (48 гадоў) — доктар гісторыі, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя», Юры Хадыка (52 гады) — доктар фізыка-матэматычных навук, супрацоўнік Інстытуту фізыкі АН БССР.

Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР адмовіў Народнаму Фронту ў рэгістрацыі на тэй аснове, што «шэраг палажэньняў праграмы і статуту БНФ супярэчыць канстытуцыі БССР» (маюцца на ўвазе палажэньні аб рэспубліканскім грамадзянстве, аб уласных вайсковых фармаваньнях, падпарадкаваных ураду рэспублікі, ды іншае).

Праграма Народнага Фронту не прадбачыць выхаду Беларусі з СССР. У ёй сказана, што «БНФ выступае за нармалізацыю ўзаемадачыненьняў сувэрэнных рэспублік шляхам распрацоўкі і прыняцьця новае саюзнае ўмовы». Аднак апошнім часам, асабліва пасьля «літоўскіх падзеяў», некаторыя лідэры Народнага Фронту публічна заяўляюць, што «адзіны выхад у нашай сытуацыі — гэта **выхад**». Улетку 1990 году мяркуецца склікаць канфэрэнцыю БНФ, дзе пытаньне аб сувэрэнітэце, як з усяго відаць, будзе галоўным.

Арганізаваныя групы падтрымкі Народнага Фронту існуюць цяпер практычна ўва ўсіх 117 раёнах Беларусі. Яны аб'ядноўваюць, паводле розных ацэнак, 100-150 тысячаў актыўных прыхільнікаў БНФ. Але сымпатызуе руху значна большая колькасьць людзей. Вынікі сакавіцкіх выбараў сьветчаць, што ў Менску і абласных цэнтрах рэспублікі кандыдаты, якія афіцыйна йшлі на платформе Народнага Фронту, набралі 40-60 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў.

Друкаваны орган БНФ — «НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту», выдаецца ў беларускай мове тыражом 25-50 тысячаў экзэмпляраў, выходзіць не радзей як раз на месяц, друкуецца ў Літве.

Усе іншыя нефармальныя арганізацыі, пра якія пойдзе гаворка ніжэй, выступаюць у кааліцыі з Народным Фронтам.

## КАНФЭДЭРАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК

Ейны ўстаноўчы зьезд адбыўся ў студзені 1989 г. ў Вільні. У Канфэдэрацыі аб'ядналіся нефармальныя маладзежныя аб'яднаньні, клюбы й да таго падобныя грамадзкія сфармаваньні, якія ставяць сабе за мэту «нацыянальна-культурнае і дэмакратычнае адраджэньне Беларусі, поўны сувэрэнітэт рэспублікі», як запісана ў статуце Канфэдэрацыі.

Першае нефармальнае аб'яднаньне гэткае арыентацыі зьявілася ў Менску ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце яшчэ ў 1989 годзе. З пачаткам перабудовы аналягічныя групы пачалі ўзьнікаць у іншых месцах і цяпер яны ёсьць блізу ў 40 гарадох рэспублікі. Афіцыйна зарэгістраваныя адно некалькі аб'яднаньняў.

Пасьля стварэньня Народнага Фронту Канфэдэрацыя ўлілася ў яго як «адзьдзел БНФ». Выдае бюлетэнь «Супольнасьць» тарыжом да 10 тыс. экзэмпляраў.

## БЕЛАРУСКІ ЭКАЛЯГІЧНЫ САЮЗ (БЭС)

На ўстаноўчым зьезьдзе, што адбыўся 1-2 ліпеня 1989 году ў Менску, былі прадстаўнікі розных нефармальных групаў і аб'яднаньняў, а таксама таварыства аховы прыроды, паляўнічых і рыбаловаў, дзяржаўныя працаўнікі сыстэмы Дзяржкампрыроды БССР зь 55 гарадоў і населеных пунктаў.

За прэзыдэнта БЭС абраны прафэсар Гомельскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту Б. Савіцкі. У ўправе БЭС каля 80 чалавек з розных рэгіёнаў Беларусі.

Прынятыя «Асноўныя кірункі дзейнасьці Беларускага Экалягічнага Саюзу». Сярод іх — стварэньне праблемных і экспэртных радаў па розных кірунках, правядзеньне масавых акцыяў азеляненьня гарадоў, нагляд за станам усіх асяродзьзяў. Створаныя й працуюць камітэты БЭС «Чарнобыль» і «Экалёгія чалавека».

Сяброўскія білеты яшчэ ня выдадзеныя, дзеля гэтага аб дакладнай колькасьці сяброў меркаваць цяжка. На думку кіраўнікоў БЭС, Саюз налічвае 12-15 тысячаў чалавек.

## ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ

Камітэт Беларускага Народнага Фронту для гуманітарнай дапамогі пацярпелым у выніку чарнобыльскае аварыі, перш за ўсё дзецям. На сабраныя ахвяраваньні арганізуе аздараўляльны адпачынак дзяцей з заражаных раёнаў. Інфармуе грамадзкасьць (на мітынгах, у нефармальным друку і г.д.) аб «запраўдных выніках чарнобыльскае катастрофы». Стымулюе міжнародную дапамогу. Кантактуецца з грамадзкімі арганізацыямі краін Заходняе Эўропы, ЗША, Канады. Філіялы камітэту ёсьць у Магілеўскай, Гомельскай вобласьцях, у некаторых раённых цэнтрах.

Старшыня Каардынацыйнае Рады камітэту — дацэнт Белдзяржунівэрсытэту Генадзь Грушавы, кандыдат філязофскіх навук.

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫШКА СКАРЫНЫ (ТБМ)

Уся дзейнасьць ТБМ накіраваная на адраджэньне беларускае мовы, аднаўленьне ейнага прыярытэту ў сярэдняй і вышэйшай школе, ува ўсіх сфэрах грамадзкага й дзелавога жыцьця. Бліжэйшае заданьне Таварыства — практычная рэалізацыя закону аб дзяржаўнасьці беларускае мовы, што быў прыняты ў студзені 1990 году.

Устаноўчы зьезд ТБМ адбыўся ў Менску 27 чэрвеня 1989 году. У ім узяло ўдзел 300 дэлегатаў з усіх 117 раёнаў рэспублікі, а таксама прадстаўнікі беларускіх культурных аб'яднаньняў зь іншых рэспублік. У кіраўнічы орган — раду ТБМ абрана 57 асобаў. Сярод іх — чатыры міністры, пяць сяброў Сойму БНФ, некалькі партыйных працаўнікоў. Старшыня Рады ТБМ — паэт Ніл Гілевіч.

Паводле статуту ТБМ, прынятага на зьезьдзе і зарэгістраванага Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету БССР 27 верасьня 1989 г., кожная гарадзкая і раённая арганізацыя Таварыства — гэта юрыдычная асоба. На 1 лютага 1990 г. сакратарыятам ТБМ зарэгістравана каля 70 рэгіянальных арганізацыяў Таварыства. Самыя буйныя зь іх, што налічваюць па некалькі тысячаў чалавек, дзеюць у Менску, Маладэчне, Лідзе, Полацку ды іншых гарадох. Арганізацыі ТБМ ёсьць у Польшчы, Чэскай і Славацкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы, Англіі, ЗША. У СССР — блізу ўва ўсіх саюзных рэспубліках.

ТБМ выдае бюлетэнь «Наша Слова» (16 палосаў памерам у стандартны аркуш), пэрыядычнасьцяй раз на месяц, тыраж першага нумару 6,5 тыс. экзэмпляраў.

## СЯЛЯНСКІ САЮЗ БЕЛАРУСІ (ССБ)

Гэта асацыяцыя сялянскіх гаспадарак, сельскагаспадарскіх каапэратываў і арганізацыяў арандатараў. Галоўнае ў ягонай дзейнасьці — аказаньне практычнае дапамогі новагаспадаром і абарона іхных законных правоў і інтарэсаў.

Сялянскі Саюз створаны на ўстаноўчай канфэрэнцыі ў Менску 16 лістапада 1989 году. У ягоным складзе было каля 100 чалавек. Саюз кантактуецца з аналягічнымі арганізацыямі ў іншых рэспубліках: АККОР — у Расеі, Цэнтральным Саюзам Хутаранаў Эстоніі, Цэнтрам Сялянскіх Гаспадарак Латвіі і іншымі.

Управа Сельскага Саюзу БССР уважае, што ў фэрмэрскага руху ў Беларусі вялікая будучыня. Паводле вынікаў апытаньняў, праведзеных сацыялёгамі, у рэспубліцы налічваецца каля 7 тысячаў грамадзянаў, што жадаюць ужо сёньня заснаваць самастойныя сялянскія гаспадаркі. Працэс стрымваецца адсутнасьцяй законаў, а таксама пазыцыяй уладаў, кажа старшыня ўправы Сялянскага Саюзу, кандыдат эканамічных навук Канстантын Ярмоленка.

## МАРТЫРАЛЁГ БЕЛАРУСІ

Беларускае гісторыка-асьветнае таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралёг Беларусі» было створанае 19 кастрычніка 1988 году. Ягонымі заснавальнікамі сталіся творчыя саюзы рэспублікі і тыднёвік «Літаратура і Мастацтва», орган Саюзу Пісьменьнікаў БССР.

У кіраўнічы орган Таварыства — Раду — увайшлі ведамыя дзеячы беларускае культуры, вучоныя, прадстаўнікі ўсіх пластоў жыхарства і рэгіёнаў рэспублікі — усяго 30 асобаў.

«Мартыралёг Беларусі», які да гэтага часу афіцыйна не зарэгістраваны, ставіць перад сабою мэту «выясьніць паймена колькасьць людзей, што загінулі ў гадох сталінскага тэрору ў межах дзяржаўнае, гістарычнае й этнічнае тэрыторыі народу — усюды, дзе жыве беларускае насельніцтва... Адшукаць месцы забойстваў і пахаваньня ахвяраў... Даведацца прозьвішчы арганізатараў, выканаўцаў і памагатых масавых забойстваў, рэпрэсіяў і тэрору. Дамагацца суду на Есіпам Сталінам і ягоным акружэньнем... Дамагацца адпаведных дапаўненьняў канстытуцыі і крымінальнага кодэксу БССР артыкуламі аб адказнасьці за злачынствы сталінізму, за ягоную прапаганду, аб непашырэньні на гэтыя злачынствы тэрміну даўнасьці...».

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ

Дзейнасьць да стварэньня такое партыі вядуць «Сацыял-дэмакратычны Саюз Беларусі», што зьявіўся ў канцы 1989 году і які аб'ядноўвае каля 50 чалавек (у асноўным студэнты), і паліт-клюб «Сучасьнік», які дзеіць ад лета 1988 году (у яго ўваходзіць 150-200 чалавек, галоўным чынам выкладчыкі-грамадазнаўцы і інш.).

***(Працяг на 8-й б.)***

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



## СЫМПОЗІЮМ «БЕЛАРУСЬ І ЗАХАД»

У заходня-нямецкім гор. Мюнстэры адбыўся 3-6 травеня сымпозіюм, поўнасьцяй прысьвечаны тэме «Беларусь і Захад». У ім узялі ўдзел навукоўцы зь Мюнстэру, Бону, Марбургу, Мюнхэну, Лёндану і Менску. Зь беларускіх удзельнікаў Юры Хадыка гаварыў пра іканаграфію, Іван Саверчанка — пра беларускую барокавую паэзію і сувязі зь нямецкай літаратурай, Пётра Садоўскі — пра месца беларускае мовы ў сям'і моваў Эўропы, Кабашнікаў — пра братоў Грымаў і беларускую фальклярыстыку, Зінаіда Мажэйка — пра беларускія народныя песьні Уладзімер Сакалоўскі — пра беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі. Брытанскі літаратуравед праф. Арнольд Макмілін прачытаў даклад пра клясычныя й рамантычныя элемэнты ў творчасьці М. Багдановіча. На сумежныя тэмы гаварылі й нямецкія навукоўцы.

## НЕФАРМАЛЬНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

*(Заканчэньне зь 7-й б.)*

Лідэр Сацыял-дэмакратычнага Саюзу — Валеры Бурбо да нядаўнага часу працаваў у камсамоле, цяпер — каапэратар.

### ПАЛІТКЛЮБ «СУЧАСЬНІК»

Ачольвае яго Леў Крывіцкі, кандыдат філязофскіх навук, які працаваў выкладчыкам навуковага камунізму ў інстытуце, цяпер — начны вартаўнік.

Гэтыя арганізацыі прабуюць прыцягнуць да грамадзкага руху іншыя аб'еднаньні і групы, што стаяць на блізкіх да сацыял-дэмакратыі пазыцыях, ды стварыць асацыяцыю з пэрспэктывай заснаваньня партыі.

Бліжэйшая мэта, паводля словаў Крывіцкага, — прымусіць партыйнае кіраўніцтва рэспублікі, пасьля ягонага творчага абнаўленьня, сесьці за «круглы стол» зь незалежнымі палітычнымі арганізацыямі. Пры гэтым павінны быць улічаныя і інтарэсы апарату як уплывовае часткі грамадзтва. Прапанаваны намі шлях, кажа Крывіцкі, гэта разьвіцьцё шляхам кампрамісаў, пастаянных рэформаў, а не захопу ўлады.

Наладжваюцца кантакты з сацыялдэмакратамі і сацыялістамі ў краінах Заходняе Эўропы.

### ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ (ДПБ)

Заявіла пра сябе на пачатку 1989 году. Паводля словаў «старшыні партыі» Ўладзімера Афанасьева (мастакархітэктар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР), іхная арганізацыя аб'ядноўвае 460 сяброў (на красавік 1990 г.), у асноўным гэта творчая і тэхнічная інтэлігенцыя. Групы партыі пачынаюць ствараца ў некаторых правінцыйных гарадох. ДПБ за паступовы пераход грамадзтва да «гуманістычных формаў сучаснага капіталізму».

### РАБОТНІЦКІ САЮЗ БЕЛАРУСІ (РСБ)

Пакуль што існуе толькі аргкамітэт для стварэньня работніцкага саюзу Беларусі, што задуманы як масавая палітычная арганізацыя рабочых. Аргкамітэт быў створаны на ўстаноўчай канфэрэнцыі ўвосень 1989 году, ініцыятарам якое выступіла група рабочых-актывістаў БНФ.

Апошнім часам пачалі ствараццa нізавыя арганізацыі РСБ на прадпрыёмствах (прыкладам, на Менскім заводзе «Электронмаш»).

## СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДРА ВЕРАБЕЙ



Нарадзілася нябожчыца 22 сакавіка 1900 г. ў в. Іванкавічы на Наваградчыне. З дому Міхальчык. Да вайны жыла з мужам Міхасём Вераб'ём на гаспадарцы ў сваёй вёсцы. Наведала Жырава-Жыровічы, калі была маладою. У часе вайны апынулася ў Усходняй Прусіі, дзе памерла 14-гадовая дачка Оля, якую пахавалі ля кірхі (царквы).

Па вайне сям'я жыла ў ДП-лягеры Ватэнштэт, а ў 1951 годзе выехала ў ЗША. У Нью-Ёрку належала да парафіі сьв. Кірылы Тураўскага.

Калі тры гады таму нябожчыца была моцна хворая, а. Аляксандар Яноўскі даў апошняе памазаньне. Астатнімі гадамі, калі была слабая ўжо, наведалі яе Архіепіскап БАПЦ Мікалай, а. архім. Карп. Калі была ўжо ў шпіталі, памёр на Беларусі сын Павал, а за два месяцы памерла й Аляксандра. Пакінула сына Кастуся з жонкаю Марысяй ды нявестку на Бацькаўшчыне, а таксама пяцёра праўнукаў.

Хай-жа будзе ёй вечная памяць.

**К. В.**

### ПЛЯНЫ БІСКУПА КАНДРУСЕВІЧА

Біскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які стаўся 25 ліпеня 1989 году, Апостальскім Менскім Адміністратарам, у часе свайго нядаўнага побыту ў Заходняй Нямеччыне даў колькі інтэрв'ю Ігару Завэруху. Завэруха піша ў публікацыі радыястанцыі «Свабода» «Report on the USSR" (v. 2, № 19, p.18):

«Паводле Біскупа Кандрусевіча, пераклáдаў у беларускую мову афіцыйна рэкамэндаваных лацінскіх літургічных тэкстаў, базаваных на рэформах Другога Ватыканскага Сабору, ніколі сыстэматычна не рабілася. Новыя пераклады — катэхізісу і малітоўніка — перададзеныя для паправак у факультэт беларускае мовы й літаратуры ўва ўнівэрсытэт у Гародні. Біскуп Кандрусевіч, які вінаваціць рэжым за вельмі малую колькасьць школаў з беларускай мовай навучаньня, мае амбітныя пляны пераклaсьці кожную рэч у сучасную беларускую мову, але ня мае прафэсіянальных беларускіх тэалёгаў для тэткага заданьня».

### САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ДВАРАНАЎ

Гэтай арганізацыі ўжо больш за 10 гадоў, але толькі на пятым годзе перабудовы Саюз Беларускіх Дваранаў пастанавіў выйсьці з «падпольля», маючы намер стварыць «генэалягічнае таварыства» пры Менскім гарадзкім Фондзе культуры.

Цяпер у Саюзе 175 чалавек — патомныя дваране з усяе Беларусі. Сярод іх — прадстаўнікі старадаўных дынастыяў: Сьцяпуржыцкіх, Сташэўскіх, Дамброўскіх...

## СЬВ. † ПАМ. ЮРЫ ПОПКО

Народжаны 7 кастрычніка 1912 г. ў Высокім Гоньдзе Беластоцкага павету, беларускі пісьменьнік, закладчык і дырэктар Беларускага Музэю і Інстытуту Беларусаведы ў горадзе Ляймэне каля Гайдэльбэргу ў Заходняй Нямеччыне, адыйшоў на вечны супачын 9 траўня 1990 г. і пахаваны на могільніку ў Ляймэне.

Вечная яму памяць.

**Супрацоўнікі Беларускага Музэю і Інстытуту Беларусаведы ў Ляймэне, Зах. Нямеччына.**



*Сьв. пам. Юры Попко (пасярэдзіне) у сваім музэі прыймае гасьцей: (зьлева) др. Барыс Кіт, а. Аляксандар Надсон, сяброўка нябожчыка Эльза, спадарожніца (імя няведамае) др. Кіта. Фота з 1987 году.*

## СЬВ. † ПАМ. ЭДВАРД (Дзюнік) ШАБУНЯ

нар.23.І.1915 г. ў Менску, памёр 24.V.1990 г. ў Нью-Ёрку. Пахаваны 29.V.1990 г. на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку.

Вечная памяць.

**Сям'я і сябры**

## СЬВ. ПАМ. Б. БУТ-ГУСАІМ

Беларусы Парыжу правялі 6 сакавіка сёлета на апошні супачынак свайго сымпатычнага і ўсімі любімага суродзіча-Татарына Базыля Бут-Гусаіма. Паходзіў ён з Палесься, з тае самае мясцовасьці што й наш сябра «Хаўрусу» сп. Вацлаў Дубойскі, вялікі прыяцель нябожчыка.

У ўкраінскім касьцеле ў Парыжы адбылася рэлігійная абслуга нябожчыка, якую замовілі і абрадам пахаваньня кіравалі прыяцелі Базыля сп. П. Гадаванскі (Украінец) і ягоная жонка чэскага паходжаньня Эстэр.

Пахаваны нябожчык на могільніку Пантэн, што знаходзіцца на поўначы Парыжу. Памінальны абед адбыўся ў рэстаране, дзе ўдзельнікі дзяліліся ўспамінамі пра свайго 72-гадовага прыяцеля, якому давялося перацярпець цяжкую хваробу.

Сьв. пам. Базыль Бут-Гусаім быў ня толькі добрым сябрам для ўсіх, але й шчырым, ахвярным і адданым Беларусам.

Сьпі спакойна, дарагі Базыль, хай табе мроіцца Беларусь, якую Ты так любіў.

**М. Н.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча*

| | |
|---|---|
| Заміж кветак на магілу с.п. Натальлі Орса: | |
| Я. і М. Азарка | ам.д. 25 |
| Ю. і Н. Азарка | 25 |
| Заміж кветак на магілу с.п. Анны Ганэцкай-Протас: | |
| В. і Н. Стома | 30 |
| Р. Галяк | 25 |
| Падпіска й ахвяры: | |
| А. Мшар | 100 |
| Ул. Т. | 100 |
| К. Ворт | 80 |
| Б. Русак | 30 |
| П. Кажура | 30 |
| П. Драздоўскі | 30 |
| В. Дутка | 25 |
| Г. Гэльвіг | 20 |
| А. Стукаліч | 20 |
| М. Олійнык | 20 |
| М. Ігнатовіч | 20 |
| А. Губэрт | 20 |
| М. Кунцэвіч | 20 |
| М. Януш | 20 |
| В, Дубяга | 20 |
| Я. Сапежынскі | 20 |
| Д. Ясько | 20 |
| А. Нэстар | 20 |
| Л. Драздова | 20 |
| У. Сьліўка | 20 |
| С. Дубоўскі | 20 |
| Т. Шыбут | 20 |
| Ю. Стагановіч | 20 |
| А. Акановіч | 20 |
| Б. Дубоўскі | 20 |
| А. Кажан | 20 |
| А. Семянчук | 10 |
| Ю. Нэруш | 5 |

**КАНАДА:**

| | |
|---|---|
| Ю. Рэпэцкі | 20 |
| В. Целяш | 20 |
| Усяго | 935 |

**НА РАДЫЯПРАГРАМУ Ў ПЭРЦЕ**

| | |
|---|---|
| Б. Кіт | ам.д. 200 |

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ**

| | |
|---|---|
| А. і Л. Бяленіс | ам.д. 915 |
| Л. Трусэвіч (у памяць с.п. Н. Орса) | 100 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| М. Раецкі | 61 |

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014